Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 23 Пятніца, 12-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар. — 5 гр.

## У зачарованым коле.

Цэлы цывілізованы сьвет таўчэцца цяпер, як у нейкім зачарованым коле, ламаючы галаву над тым, каб знайсьці спосабы ўхіляцца ад вайны, каб зрабіць так, каб у выпадку непаразуменьняў паміж дзьвюма ці некалькімі дзяржавамі, справа рашалася ня сілаю зброі, а як-нібудзь іначай.

Апошняя сусьветная вайна паказала, што ваяваць сапраўды страшна. Раней, калісьці, вайна была страшнаю толькі для простага народу ды выгаднаю для тых, хто панаваў над ім. А ў нашы дні, як цяпер бачым вайна сваімі пасьледзтвамі зачапляе навет і тых, хто кіруе лёсам народаў.

Ніхто сягоньня ня рад з таго, што была вайна. У порах разьляцеліся на нашых вачох магутныя монархіі Эўропы, бышыя: Расея, Нямеччына ды Аўстра-Вэнгрыя. Уладары, якім ніколі ня сьнілася аб спаткаўшым іх лёсе, наўрад ці пачалі-б у 1914 годзе вайну, калі-б ведалі гэта, каб лёс свой прадбачылі. Мікалай II расстрэлены сваім уласным паўстаўшым народам, нямецкі Вільгельм II і аўстрыяцкі Кароль — на выгнаньні. Ракою праліталя ў вайне кроў народаў не засталася бяз помсты.

Што вайна — рэч страшэнная і блізу што нікому непатрэбная, аб гэтым разумее кожны самы просты чалавек, але ўся бяда ў тым, што самы наймудрэйшы чалавек ня можа знайсьці гэткага способу вывясьці з моды самыя вайны, каб на спосаб гэты згадзіліся адразу ўсе дзяржавы ды пастанавілі *не ваяваць*.

Дасюль, дзякуючы народнай цемнаце, заўсёды ўдаецца тым, хто кіруе лёсам народаў, вайну памаленечку пачаць, пасьля выставіць тыя ці іншыя лёзунгі, вельмі прыгожыя, гуманныя, гэткія мілыя народным масам, што тыя ахвотна б'юцца з ворагам, аж пакуль хапае сілы.

Апошняя напрыклад вайна, як апавяшчалі тыя, хто аказаўся ў ёй перамогшаю стараною, вялася за вызваленьне *малых*, прыгнечаных народаў. Вайна скончылася, ў Вэрсалі быў падпісаны мір, а ня чуваць нешта, каб усе нацыянальныя проблемы былі вырашаны, каб ня было ўжо сягоньня *малых*, паднявольных народаў.

Значыцца, ў нечым тут была фальш: тыя, хто дэкляраваў самаазначэньне народаў і вечны мір, зрабілі ня так, як казалі.

І ледзь толькі разьвеяўся пах пораху ў паветры пасьля вялізарнейшае з войнаў, як раптам усюды загаварылі аб спосабах ухіліць пагрозу новае вайны. А значыць—пагроза гэтая існуе.

А гісторыя войнаў паказвае, што, як памятае сябе чалавечы род, войны на зямлі былі рознага гатунку; прычынамі войнаў у мінуўшчыне былі гэткія акалічнасьці, якія людзям нашага веку здаюцца цяпер сьмешнымі. І падобныя акалічнасьці цяпер ужо выклікаць вайны ў культурнай Эўропе ня могуць, дзеля таго, што варункі жыцьця пайшлі далёка ўперад, а народ пайшоў вальнейшы ды ня гэткі цёмны, як калісь.

Досіць будзе спомніць, што ў мінулым якому-нібудзь Аляксандру Македонскаму, Чынгіс-хану ці Напалеёну Бонапарту зажадалася пакарыць пад сваю ўладу увесь сьвет дый пайшоў ён вайною гарнуць пад сябе непакорныя народы, хацеўшыя жыць ня так, як нехта чужы прыкажа, а ось так сабе пасвойму, нікога з свайго боку не чапаючы. Досіць было ў мінуўшчыне якому-нібудзь Івану Грознаму ці іншаму маскоўскаму цару проста так сабе захапець схапіцца з адным з сваіх суседзяў, як проці гэткага жаданьня ня было ўжо й рады.

Зьмяніліся часы, паразумнелі людзі, зьмяніліся прычыны войнаў, зьмяніліся самыя спосабы вайны, але адно не зьмянілася: вайна, як зьявішча, не перастала пагражаць людзям. Есьць яшчэ прычыны для войнаў, ёсьць яшчэ ў народзе досіць цемнаты, а значыцца ёсьць і магчымасьці войнаў.

— Як-жа зрабіць так, каб войнаў ня было? — пачалі меркаваць разумныя людзі.

Кожнаму падабаецца гэткая думка. Кожны, хто хаця крыху знаёмы з гісторыяй народаў, якая дасюль была нічым іншым як гісторыяй войнаў, добра разумее, што ніякая вайна ніколі не дасягала пастаўленых мэтаў у поўнай меры. І Аляксандар Македонскі і Напалеён паскручвалі сабе галовы, не пакарыўшы ўсё-ж такі цэлага сьвету. Ня вызвалілі рыцары гэтак званых „крыжавых паходаў“ Хрыстовага Гробу і, нарэшце, на нашых вачох не далі саюзьнікі ўсім народам навет у Эўропе самаазначэньня, не зрабілі бальшавікі чырвонаю арміяй сусьветнае соцыяльнае рэвалюцыі, як аб гэтым крычалі, ваюючы..

І вось, разумеючы гэткую бязмэтнасьць вайны, кожнаму робіцца ясным, што яна непажаданая дый непатрэбна.

Цяперашняя якраз сэсія Лігі Народаў у швайцарскім горадзе Жэнэве моцна занялася справаю выводжаньня з моды войнаў.

А дзеля таго, што і ў спакойны час падрыхтоўка да вайны, гэта значыць трыманьне заўсёдных вялікіх арміяў, кладзецца на кожную дзяржаву страшэнным цяжарам, дык ідзе гутарка перш за ўсё аб абмежаваньні азбраеньняў.

Але-ж як, напрыклад, дабравольна можа разззброіцца тая, ці іншая дзяржава, калі зброіцца яе сусед—іншая дзяржава, зброіцца й сама ня ведае з кім давядзецца некалі ваяваць.

І вось, каб кожная дзяржава не баялася таго, што калі яна саўсім абмяжуе свае азбраеньні, дык на яе нападзе, калі сабе захоча, азброеная суседняя дзяржава, ў Лізе Народаў і разглядалася пытаньне аб тым, каб даць гарантыю бясьпечнасьці кожнаму гаспадарству, гэта значыць зрабіць так, каб выключана была ўсялякая магчымасьць нападу лужэйшага гаспадарства на слабейшае, большага на меншае, багацейшага на бяднейшае і г. д.

Проектуецца стварыць *міжнародны трацейскі суд*, які займаўся-б разглядам простага факту, хто першы нападае, гэта значыць устанаўленьнем таго, якая дзяржава *нападае* на іншую, а якая толькі *бароніцца*.

Рэч, як бачым, ня надта лёгкая. Бо вось і дасюль саюзьнікі вінавацяць Нямеччыну, што яна вінавата ў былой вайне, выходзіць як быццам яна была *нападаўшаю* стараною, а Нямеччына цьвярдзіць наадварот, быццам яна толькі баранілася.

Вось і пачынаецца нейкае зачараванае кола, або загадка: як устанавіць, каго лічыць вінаватым у тым, што ён, а ні хто іншы, пачаў вайну?

Далей ёсьць вельмі просты проект, як спыніць вайну, калі хто-нібудзь пачне яе.

Проектуецца гэткі саюз усіх культурных дзяржаваў, які пастанавіў-бы наагул не ваяваць, а ўсе міждзяржаўныя спрэчкі рашаць трацейскім судом; калі-ж раптам якая-нібудзь дзяржава, ня хочучы пакарыцца міжнароднаму трацейскаму суду, ўзяла дый пачала вайну, дык тады *ўсе* саюзьнікі, лічачы яе стараною *нападаўшаю*, павінны ўжыць усе спосабы прымусіць яе ад вайны адмовіцца.

І паўстае далёка ня простая задача: як арганізаваць гэты самы *прымус*, ці йначай кажучы тыя яго спосабы, якімі міжнародны трацейскі суд, як і ўсякі іншы суд, прыводзіў-бы ў выкананьне свае пастановы?

А пакуль існуюць азброеныя дзяржавы, дык выходзіць, што і прымушаць іх да адмовы ад вайны, ці, проста кажучы, не даваць ім ваяваць, міжнародны трацейскі суд можа толькі гэткаю самаю збройнаю сілаю.

Іншыя спосабы заўсёды зьяўляюцца слабейшымі, бо мы бачылі, што як ні байкатавалі з эканамічнага боку Нямеччыну ўсе дзяржавы падчас мінулае вайны, а народ нямецкі мёр з голаду, а ўсё-такі ваяваў, пакуль арміі яго ня былі разьбіты мацнейшымі сіламі саюзьнікаў на палёх бітваў.

І трудная рэч — выйсьці з зачарованага кола, цяжкая справа — выкараніць вайну з жыцьця народаў якраз тою самаю збройнаю сілаю, якою вайна вядзецца.

Што народы шчыра хочуць зжыць вайну са сьвету аб гэтым ведама, але што ня ўмеюць яны дасюль гэтае справы арганізаваць — гэтак сама ведама.

Справа то ўжо пачата: ёсьць саюз, або Ліга Народаў, ёсьць Міжнародны Трыбунал (суд), бяда толькі, што яны гэтак недасканальна арганізованы, бо ня ўсе дзяржавы гатовы іх слухацца, ня ўсе туды і ўваходзяць, — што лепшыя безваенныя часы яшчэ недзе наперадзе.

Вялікая мудрасьць чалавецтва заўсёды йдзе далей па шляху прогрэсу, па шляху удасканальваньня ўсяго жыцьцёвага, а дзеля гэтага ёсьць вера й надзея, што чалавечы род знойдзе-такі выхад з зачарованага кола — немагчымасьць вайны арганізуе.

# Палітычны агляд.

Ранейшая цікаўнасьць да Жэнэўскай конфэрэнцыі пачынае слабець пасьля таго, як закончылася першая частка паседжаньня Лігі Народаў, на якой разглядалася пытаньне аб захаваньні агульнага міру. Пасьля таго, як на агульным сходзе была прынята рэзалюцыя па гэтаму пытаньню, Макдональд і Эрыё паехалі дамоў і заняліся чарговымі пытаньнямі. Рэзалюцыя, вынесеная на першай частцы паседжаньняў Лігі, была апрацавана супольна з Макдональдам і Эрыё і была прынята агульным сходам аднагалосна. З гэтай рэзалюцыі відаць, што Жэнэўская конфэрэнцыя паслужыла толькі падгатоўкай да новай міжнароднай конфэрэнцыі, якой павінны разглядацца справы агульнага абязброеньня. Дзеля гэтага выбраны тры спэцыяльныя камісіі Лігі Народаў, якіх мэтай зьяўляецца групіраваньне і апрацаваньне матар'ялу для будучай конфэрэнцыі. Асновай гэтага матар'ялу будуць тыя прамовы, якія былі сказаны прадстаўнікамі розных дзяржаў на мінулым паседжаньні Лігі, а таксама й ўсе проекты па пытаньню аб абязброеньні, унесеныя ў Сэкрэтарыят Лігі і апрацаваныя самай Лігай, прыймаючы пад увагу ўсе ўвагі ды папраўкі да іх, унесеныя рознымі дэлегатамі. Гэткім чынам аканчальнае вырашэньне пытаньня аб захаваньні міру, г. зн. аб абавязковым агульным арбітражы, гарантыях бясьпечнасьці і абязброеньні адложана да бліжэйшае будучыны.

А ў той час, як у Жэнэве вяліся гутаркі аб міры, на Далёкім Усходзе дасьпяваюць надта важныя палітычныя падзеі, якія могуць кончыцца аружным спатканьнем найвялікшых сусьветных дзяржаў — Кітаю, Японіі і С. С. Р. Р. з аднаго боку і Амэрыкі, Англіі ды Францыі з другога. Кітайская ўнутраная вайна цяпер мае зусім іншкшы характар, як дагэтуль бывала. Цяпер змагаюцца не прыхільнікі з працаўнікамі новага рэспубліканскага ладу ў Кітаі, як было раней, але прыхільнікі з працаўнікамі ідэі аслабаненьня Кітаю з-пад чужаземнага над ім пратэктарату які вымагае, каб Кітай ня вёў самастойнай загранічнай палітыкі. Апрача таго вялікія дзяржавы падзялілі ўвесь край на г. зв. сфэры эканамічнага ўплыву. Гэтакімі пратэктаратарамі ў Кітаі, перад вайной былі Расея, Нямеччына, Аўстра-Вэнгрыя, Англія, Францыя, Італія, Амэрыка і Японія, а пасьля вайны, як выбылі з радоў вялікіх дзяржаў Расея, Нямеччына і Аўстра-Вэнгрыя, засталася толькі Японія, захваціўшая найбольшую ўладу ў Кітаі ў час эўрапэйскае вайны, а пасьля Амэрыка, Англія, Францыя ды Італія. Для гэтых дзяржаў Кітай з ягоным 400-мільённым насяленьнем ёсьць найлепшы рынак збыту. На гэтым грунце бальшавікі пастанавілі вытварыць канфлікт між Кітаем і дзяржавамі-пратэктарамі, карыстаючыся між. інш. нацягнутымі адносінамі Японіі да Амэрыкі з прычыны спыненьня апошняй японскай эміграцыі і сваім моцным палажэньнем у Пэкіне. Апрач таго бальшавікі рашылі памсьціцца Амэрыцы, Англіі і Францыі за тое, што яны да апошняга часу перашкаджалі зрабіць савецка-кітайскі дагавор і дагэтуль перашкаджаюць савецка-кітайскаму зьбліжэньню. Цяпер - жа ясна, што паход гэнэрала Сун-Ят-Сэна на Шанхай, які ёсьць галоўнай апорай чужаземнага ўплыву ў Кітаі, падгатаваны і падтрымліваецца бальшавікамі, за якіх сьпіной можа стаяць немцы з японцамі. Зусім магчыма, што як толькі абаронцы Шанхаю Люн-Янг-Ксіянгу, якога бальшавікі называюць самым багатым параходным прадпрыемцам у Кітаі, ня ўдасцца ўстрымаць напору арміі Сун-Ят-Сэна, дык будзе спатканьне з войскам і флётам Англіі, Амэрыкі і Францыі і гэткім чынам можа пачацца запраўдная інтэрвэнцыя вялікіх дзяржаў у Кітаі, усіх скуткаў якой нельга прадбачыць, дзеля таго што ў данным здарэньні прыходзіцца мець справу ня толькі з нацыяналістычна настроеным Кітаем, але й з бальшавікамі, якія заўсёды гатовы падтрымаць і раздзьмухаць усялякі міжнародны канфлікт. Яны даўно ўжо вядуць прапаганду ў Індыі, Пэрсыі і Кітаі пад клічам „Азія для азіятаў“. І Кітай цяпер ёсьць найлепшым грунтам для бальшавіцкай інтрыгі, скірованай проці найстрашнейшых ворагаў бальшавізму — Амэрыкі, Англіі і Францыі, з якімі ўжо пачаўся конфлікт Саветаў па повадў Усходня-Кітайскае чыгункі ў Манджурыі, аддадзенай па савец.-кітайскаму дагавору бальшавікам, хаця ў будаваньні яе прыймалі ўчасьце амэрыканскі і францускі капіталы.

*N.*

---

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы**

— У бягучым месяцы вяртаюцца з адпуску блізу ўсе сябры рады міністраў. Дзеля гэтага на бягучым тыдні можна спадзявацца дыплёматычных працаў Рады Міністраў, а таксама важных паседжаньняў палітычнага і эканамічнага камітэтаў. Спадзяваны паварот міністраў: ваеннага, працы і земляробства, а напўна і заграничных справаў п. Скржынскага, які хіба што ня будзе прысутным у Жэнэве да канца сэсіі Лігі Народаў. У выпадку ад'езду п. Скржынскага яго будзе замяшчаць у Жэнэве пан Аўгуст Залескі, польскі пасол у Рыме.

— Кандыдатам на пасаду Дырэктара Гаспадарчага Банку на месца п. Млынарскага зьяўляецца сябра Галоўнае Ліквідацыйнае Управы д-р В. Кугаля.

— На бліжэйшым паседжаньні Рады Міністраў мае быць зроблена назначэньне п. Яшчолта Дырэктарам Дэпартамэнту Паліцыі ў Міністэрстве Унутраных Справаў.

— Паліцыя выкрыла ў Лодзі на Чырвонай вуліцы № 3 тайную тэлефонную й тэлеграфную радыястанцыю, якая была пабудована паводлуг апошніх узораў радыятэхнікі. Памешканьне, ў якім выкрыта радыястанцыя—апячатавана. Ідзе сьледзтва.

**За граніцай.**

— У **Бэрліне** арыштованы й пасаджаны ў вастрог галоўны рэдактар камуніст. газэты „Rote Fahne“, Апэльт на аснове прыказу трыбуналу абароны рэспублікі. Апэльт абвінавачваецца ў заклiканьні да дзяржаўнае здрады і да зваленьня рэспублікі.

— Конгрэс **швэйцарскіх соцыялістаў** 133 галасамі проці 57 адкінуў прапазыцыю утварэньня сыстэматычнае опозыцыі ў адносінах да Лігі Народаў, прыняўшы прапазыцыю аб стварэньні рабочага банку.

— У **Гданску** цягнецца забастоўка партавых рабочых.

— У нядзелю адбыўся сход **бэрлінскага** саюзу В. Сілезіі ў прысутнасьці прэзыдэнта В. Сілезкае провінцыі Плоскага, на якім, паміж іншым, разважалася заяра ангельск. прэм'ера Макдональда ў Жэнэве аб памылковым разрашэньні верхня-сілезкага пытаньня. Немцы прынялі рэзалюцыю, ў якой выказваюць сваё вялікае задаволеньне тым, што ў асобе ангельскага прэм'ера яны знайшлі свайго саюзьніка, трэбуючы ад Лігі Народаў напраўленьня таго, што Макдональд назваў яе абмылкаю.

— Макдональд сказаў **у Шотляндыі** прамову, ў якой, паміж іншым, заявіў што не згадзіўся на удзел Англіі ў агульным саюзе дзяржаваў, якія згадзіліся-б на арбітраж, дзеля таго, што справа гэтая не саўсім распрацована. У той тамы час згадзіўся на вышуканьне спосабаў, згодных з прынцыпамі Лігі Народаў, якія мелі-б мэтаю гарантаваць бясьпечнасьць у выпадку калі дзяржава, затакаваўшая іншую дзяржаву, адмовілася пакарыцца арбітражу.

— **Літоўскі** прэм'ер міністар Гальванаўскас на паседж. Лігі Народаў 8-га верасьня закрануў у сваёй прамове **пытаньне аб Вільні**. Ён зазначыў, што Літва ня згубіла надзеі на справядлівае разрашэньне гэтага пытаньня. Далей аратар зазначыў тое што літоўскі ўрад ўнёс прапазыцыю, каб зьвярнуцца да міжнароднага судовага трыбуналу па пытаньню аб компэтэнцыі Рады Лігі Народаў ў справе Віленшчыны.

— З прычыны грознае сытуацыі ў **Шанхаі** (Кітайшчына) ў паўночнай часьці высадзілася 1280 ангельскіх, амэрыканскіх, японскіх і італьянскіх матросаў. Апрача гэтага ў Шанхаі змобілізована шмат ахвотнікаў.

---

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 21 „Грам. Голасу“).*

Як-нібудзь фыркаючы, ішлі далей...

Раптам недзе з боку, саўсім блізка бахнуў стрэл і каб крышачку, дык забіты цецярук упаў-бы Міхасю на галаву.

— Ось дык праява! — сказаў Міхась, падымаючы цецярука, але ў гэты момэнт аднекуль зьявіўся чорны сабака і пачаў брахаць на нас.

Праз момант пачуліся цяжкія крокі і на сьцежку выйшаў чалавек.

Скураная яго адзёжа блішчэла ад макраты і дзе-ня-дзе папрыліпала да яго лісьцьцё.

— Вы што, дзядзька, за птушкай? — зьвярнуўся да яго Міхась.

— Але, — адазваўся той, адганяючы ад нас вельмі пасьмялеўшага сабаку, які, ўглядзеўшы свайго гаспадара, пачаў кідацца да нас.

— Жук, сюды! — паклікаў ён сабаку. — Сьціхні, каб цябе ваўкі!..

Але Жук ня сьціхаў і яшчэ больш заліўся, мусіць вельмі быў скрыўджаны тым, што забітая птушка дасталася ў чужацкія рукі.

Я прыглядаўся да чалавека і дзівіўся: штось знаёмы твар і ніяк ня мог уцяміць, якім парадкам ён мог апыніцца тутака...

Але мусіць чалавек угледзіў, што я нешта маркую і мо' думаючы, што я яго пазнаў, усьмяхаючыся зьвярнуўся:

— Што, не спадзяваліся мяне сустрэць тутака, пане Дзяргач?

— Пётра! — вырвалася ў мяне, — якім цудам?

— Дый ось, дзякуючы Богу, бачыш жывы і' здаровы! — адказаў ён.

Мы абняліся, як родныя. Я пазнаёміў яго з Міхасём.

Гэта быў той самы Пётра, якога лічылі забітым усе нашыя сябры, нават і я сам.

Але ўсё-ж у брахню людзей я ня верыў. Як мог прапасьці такі чалавек, як Пётра?

I, ось, думкі мае спраўдзіліся: ён жывы і цяпер мы ішлі ўтрох, весела гамонячы...

На хутары нас сустрэлі сьмехам:

— Што накупаліся? Дасталі лазьню? — сьмяючыся казаў Міхасёў бацька.

— Нічога! — адказвалі мы ўсе, сядаючы за стол...

Па абедзе мы выйшлі пасушыцца на сонцы і Пётра пачаў:

— Ось, паслухайце, мае браточкі, што бачыў і што перажыў я, пакуль папаў сюды, ў родны лес, ад людзей захаваўся... і ён пачаў свой расказ...

---

XXV.

**Хто ты?**

Я йшоў шляхам жыцьця, змарыўся, прысеў ля краю дарогі пад старой бярозай... Язык мой высах.

Я хацеў піць і ніхто ня даў мне вады...

Я ўсё йду і йду без канца і краю, дарогі няма.

Я шмат чаго бачыў:

Я бачыў вёскі. Хаты ў іх былі крыты гліняным чарап'ём, сьцены збудованы былі з цэглаў, шыбы блішчэлі як люстры, а ў сярэдзіне тых хатаў было чыста, ціха, спакойна і жылі ў іх багатыя людзі.

Хто яны, я ня ведаў. Прасіў у іх хлеба і мне давалі пірага, прасіў у іх вады — давалі віна...

Доўга глядзелі яны на мае пабітыя ногі, на падраную адзежу, ківалі галовамі. Пыталі мяне: — Хто ты? Адкуль?

— Я адтуль, — адказаў я і йшоў далей.

Я ня ведаў добра, адкуль я і хто я. Я быў чалавек, які павінен ісьці ўсё сваё жыцьцё сваім шляхам і толькі сваім, бо іншага ў мяне няма...

Я йшоў далей і шмат чаго бачыў...

Я бачыў вёскі: Хаты былі крыты саломай, сасновыя былі сьцены ў іх. У сярдзіне іх было чорна, цемна, бо праз маленькія шыбы ледзьве пранікаў сьвет Божы. У хатах

— „United Prese“ паведамляе з **Шанхаю**, што войскі гэн. Хі-Сіэн-Суанда скіравалі атаку ў кірунку Люго над ракою таго самага назову і пасунуліся на 3 кілёмэтры ўперад у кірунку Шанхаю. У 23 кілёмэтрах ад Шанхаю ідуць баі. Французскія аддзелы пастаўлялі на вуліцах драцяныя загарадкі.

— 8-га верасьня ў **Парыжы** францускі прэм'ер прыняў польскага міністра заграпічных справаў п. Скржынскага.

— Эрыо і Клемэнтэль далей займаліся 8. IX. справаю эканоміі ў бюджэтах міністраў вайны і флёту.

— Прэзэс нацыянальнага **Грузінскага** Ураду падаў у Жэнэве ангельскаму прэм'еру Макдональду просьбу, каб ён інтэрвэньяваў на карысьць **Грузіі** ў маскоўскага ўраду і скланіў яго да згоды на ўрэгуляваньне адносін шляхам трацейскага суда.

— Прэзыдэнт рэспублікі **Чылі** (ў Паўднёвай Амэрыцы) Алесандры падаўся 8-га верасьня ў адстаўку. Функцыі яго часова прыняў старшыня рады міністраў. У сталіцы пануе поўны спакой.

— З **Партугаліі** паведамляюць, што гішпанскія ўрадовыя войскі пачалі ў **Мароко** гэнэральнае адступленьне. Галоўныя сілы ўрадовага войска акружаны паўстанцамі.

— Малшал Чын-Со-Лін, фактычны правіцель і ваенны губэрнатар **Манчжурыі**, абвясьціў **кітайскаму** цэнтральнаму ўраду і дыктатару Ву-Пэй-Фу вайну. Армія Чан-Со-Ліна выступіла ў паход на Пэкін.

# Агляд прэсы.

Француская газэта **„Matin“** зьмяшчае гутарку свайго супрацоўніка з гэн. Сікорскім. Нас асабліва цікавіць тая частка гутаркі, дзе гэн. С. кажа аб адносінах у нашым краі.

На тэму здарэньня ў Стоўпцах гэн. С. сказаў:

> Расейскія банды ўварваліся дзеля рабунку ў вёскі нашага пагранічча. У гэтым нічога апрача савецкае актыўнасьці няма... Бальшавікі стараюцца сыстэматычна ўтрымоўваць на нашым пагранічны гарачае палажэньне, якое яны самі назвалі „ані мір, ані вайна...“ Прапаганда . . . прапаганда . . . Польшча ёсьць найкарацейшей дарогай, якая вядзе ў сярэднюю Эўропу, дзе III інтэрнацыянал спадзяваецца ні больш, ні менш як на хуткую рэвалюцыю. Перабудова Эўропы на аснове бальшавіцкіх прынцыпаў... вось мэта яе агітацыі і вось небясьпека, якая пагражае ня толькі Польшчы, але міру ўсяго сьвету. Урэшце—кажа далей гэн. С. супрацоўніку „Matin'a“— не забывайцеся, што хаця царская ўлада счэзла, але аднак імпэрыялістычныя традыцыі старой Расеі застаюцца... і апошнія пастановы нашага ўраду пазваляюць нам узмацаваць супакой на нашым усходнім пагранічны, ня псуючы нармальных адносін да савецкай Расеі...

Другая француская газэта „Journal des Debats“ зьмяшчае артыкул п. з. „Лёс нацыянальных меншасьцяў у Польшчы“, ў якім успамінае пратэст выдатных францускіх палітыкаў і дзеячоў у справе белага тэрору у Польшчы. Газэта кажа, што досьледы, зробленыя ў гэтай справе, даказалі безпадстаўнасьць закідаў.

Прамова ангельскага прэм'ера Макдональда выклікала ў польскай прэсе шмат рознай гутаркі. „Kurjer Poranny“ робіць гэткія вывады:

> Ня гледзячы на ўсё тое, што нас спаткала з боку актуальнай ангельскай палітыкі, надта цесны быў-бы той пагляд, што там істнуюць напрамкі варожыя да нас і што п. Макдональд ёсьць залеплены абаронца нямецкай палітыкі, ад якога мы можам спадзявацца найгоршага. Ангельскі прэм'ер ідзе зусім шчыра як у імя сваіх прынцыпаў, гэтак сама й ў імя інтарэсаў Англіі да забеспячэньня міру. Сваю суботнюю прамову, якая падтрымлівала пастаўленыя рэзалюцыі, ён скончыў заявай, што „ангельскі ўрад ня думае заплюшчываць вочы перад інтарэсамі меншых дзяржаў і ня хоча рабіць ім крыўду“. Аднак адзначыў, што, паводлуг яго перакананьняў, калі дзяржавам ня ўдасцца паразумецца датычна праблем, аб якіх гутарылася ў Жэнэве, дык трэба спадзявацца новай вайны і новых дзяржаўных перамен. Гэты страх „новай вайны“ ёсьць псыхалёгічны матыў, які выкарыстоўваецца з ўсей хітрасьцю палітыкай Бэрліну і Масквы.

Далей газэта, кажучы аб дэманстрацыях савецкага флёту ў апошнія дні на самым польскім пабярэжжы, і адзначаючы, што гэты факт быў бя зумоўна абліччаны на нэрвы заходніх міралюбцаў, піша, што:

> на гэткія шантажы і страхі процiўважным можа быць поўны супакой і салідарнасьць дзяржаў, якія хочуць міру і рашыліся супольнымі сіламі бараніць яго ад кожнага, хто захоча пасягнуць на цяперашні іх стан маемасьці.

# Новая савецкая нота.

### Як бальшавікі хітра выкручваюцца.

„Rzeczpospolita“ зьмяшчае паведам. ўрадовага савецкага агенцтва „Роста“ гэткага зьместу:

„У зьвязку з нападам на пагранічнае польскае места Стоўпцы 3-га жніўня бяг. году Польскі Урад выслаў Савецкаму Ураду ноту, ў якой цьвердзіць, што нападаўшыя перайшлі ў Польшчу з савецкае тэрыторыі, былі экіпіраваны ў Менску, дзе нібыто істнуе арганізацыя, якая кіруе бандыцкім рухам у Польшчы. Польскі Урад чакае ад Савецкага Ураду загадаў, скіраваных процi шкаленьня на савецкай тэрыторыі бандыцкіх арганізацыяў і пераходу іх цераз польскую граніцу, што як быццам адбываецца амаль штодзенна.

У ноце, якая зьмяшчае адказ на польскую ноту, Савецкі Урад на аснове строгага расьсьледаваньня катэгарычна заперачае вэрсыі аб пераходзе нападчыкамі на Стоўпцы польскае граніцы з боку Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік. Сьледзтва ня выкрыла ў Менску якой - нібудзь арганізацыі, падобнай да названае Польскім Урадам.

Пагранічныя чырвоныя жаўнеры стралялі да асоб, уцякаўшых на савецкую тэрыторыю з тэрыторыі польскае, якія затым зьніклі, відочна пайшоўшы назад на польскую тэрыторыю. Пасьпелі пры гэтым арыштаваць невядомага, які заявіў, што зьяўляецца польскім пагранічным стражнікам. Арыштованага савецкія пагранічныя ўлады выдалі ўладам польскім. Савецкі Урад загадаў арыштаваньне ў выпадку, калі выкрыюцца на савецкай тэрыторыі тыя, хто нападаў на Стоўпцы. Заява Польскага Ураду быццам пераход бандаў на польскую тэрыторыю адбываецца амаль штодня, зьяўляецца цалкам галаслоўнаю. Савецкі Урад наадварот зьвяртае ўвагу Польскае Улады на сыстэматычны пераход бандаў з польскае тэрыторыі на Савецкаю Беларусь, дзе яны тэрарызавалі насяленьне і хаваліся па зробленых праступленьнях назад у Польшчу. Шмат якія нядаўнія працэсы бандаў, напрыклад, Паўлоўскага і Караткевіча далі Савецкаму Ураду дакумэнтальныя довады супрацоўніцтва II-га Аддзелу Польскага Гэнэральнага Штабу ў межах тварэньня і дзеяньня гэтых бандаў. Паводлуг сьведчаньня польскае прэсы, банды складаюцца пераважна са здэмаралізованных астаткаў белагвардзейскіх аддзелаў Савінкова, Балаховіча і іншых. Паводлуг паведамленьняў тае самае прэсы, інцыдэнты, падобныя да нападу на Стоўпцы, часта ў апошнія часы натуюцца на Усходніх Крэсах Польшчы з прычыны спэцыфічных унутраных варункаў, якія вытварыліся на польскіх крэсах.

Савецкі ўрад аднаўляе прапазыцыю прысьпяшэньня дагавору аб разрашэньні пагранічных непаразуменьняў, які ня быў падпісаны выключна з прычыны нежаданьня польскае стараны“.

# У С.С.Р.Р.

### Палажэньне ў Грузіі.

Аб паўстаньні ў Грузіі ёсьць гэткія весткі:

2-га верасьня Поцiйская чугунка была адцята паўстаўшымі сялянамі ад галоўнае чугуначнае магістралі. Пасланы панцырны цягнік пацярпеў катастрофу. Высланым каральным аддзелам спалена вёска Тамагілі і расстрэлена 6 сялян сельскае рады. У Озургэтах пры ачышчэньні гораду ад паўстанцаў падчас вулічнае страляніны забіта 13 грамадзян і 22 цяжка ранена. На перавале на чугуначнай станцыі Цыпа, аддзелам паўстанцаў, пад камандаю быўшага афіцэра Дані-

---

гэтых жылі людзі такія-ж абдзёртыя, як і я, і яны ня дзівіліся, гледзячы на мяне.

Я прасіў хлеба — давалі мне скарынку, па якую цягнулася маленькая гразная ручка плакаўшага дзіцяці, і я ня мог браць гэтай скарынкі, ніжэй апускаў галаву і адходзіў...

Такіх вёсак было болей. І мала не ля кожнай такой вёскі ў канцы стаялі высокія будынкі з харошымі сьценамі, стрэхамі і вокнамі і жылі там людзі з белымі тварамі і рукамі, ў багатай адзежы.

Яны сядзелі на бальконах будынкаў сваіх, пілі віно, весела гаманілі, сьмяяліся... Я падходзіў да плоту, нізка кланяўся ім, стагнаў, прасіў...

Людзі сьціхалі, пераглядаліся між сабой, паціскалі плячмі, нібы дзівіліся: як сьмеў я перашкодзіць іх веселасьці і гналі мяне слугі іх, рвалі адзежу і цела маё іхнія сабакі...

Я адходзіў ад плоту і йшоў далей...

Я йшоў далей... Цяпер я змарыўся. Сілы няма ў мяне ісьці далей... Я сеў ля краю дарогі, ля старой бярозы...

Я шмат зямлі схадзіў... Мяне шмат хто пытаў: — Хто ты? Хто ты?

Хто ты? Ха, ха, ха! Сьмешныя людзі! Ці вы ня бачыце, хто я? Ха, ха, ха! Сьмешныя людзі! Хто я... Прыгледзьцеся добра.

Ось з апушчанай галавой за плугам, які цягнуць добрыя коні па добрай чорнай зямлі, ледзьве пасьпявае за сытымі коньмі, худы з чорным тварам, як сама зямля, чалавек...

Ось, таксама потам аблiты ідзе за сахой, якую ледзьве цягне худы, як шкілет, маленькі конік, па пяску...

А ось, у кайданох закуты, зьбіты, з крывёю застыўшай на твары ідзе пад канвоем...

Спытайце — хто ты?

А пабачце сюды: тутака некалі былі вёскі, былі хаты, а цяпер вецер хістае на гэтых мясцох крапіву і дзікую траву...

А дзе ўсе яны, што калісь жылі тутака ў хатах?

Глянь, бачыш: адзін за адным з торбамі за плечамі, з кіямі, ледзьве цягнуцца сонцам апаленыя, дажджом палітыя, ветрам і людзьмі ганімыя...

Гэта яны! Тыя! Ха, ха, ха! І дагэтуль вы ня ведаеце і пытаеце: — Хто ты?

Ды я той! Той, што ня мае прытулку на роднай сваёй зямельцы, ў роднай хаце сваёй не гаспадар!

Я той з каго ўсе сьмяюцца і пры жыцьці і па сьмерці, над мовай маей, над звычаем, над усім сьмяюцца!

Я той, хто капаў канавы, строіў чыгункі, фабрыкі і нават кайданы рабіў з жалеза, каб самому адзець іх на рукі і ногі...

Я усё той самы — сын беднай маці-Беларусі...

Дык ня пытайце мяне болей людзі: — Хто ты? Чуеце: я — Беларус!

Цяпер я змарыўся, бо доўга йшоў шляхам жыцьця.

Бачыце — прысеў ля краю дарогі, ля старой бярозы...

Ня пытайце болей... бо ведаеце самі, хто я...

XXVI.

### Шляхам далей.

Ён скончыў.

Цяжка зрабілася на сэрцы. Сум апанаваў нас усіх...

— Цяжка табе, браце мой родны! Я бачу, ох як цяжка. Але што зробіш...

Выпала нам на долю нясьці цяжкі крыж жыцьця. Ну што-ж, дык будзем нясьці! Будзем да канца пад цяжарам яго йсьці шляхам сваім, хоць цярністы гэты шлях! Але з горда паднятай галавой пойдзем, браце, мы далей! Пойдзем!

Хай сьмяюцца, хай гоняць! Але мы ня сойдзем з дарогі!

Ня сойдзем! Не, ніколі!

Хай гуляюць маланкі, грухацяць пяруны, нам усё роўна...

Крыж свой цяжкі панясём наперад...

Панясём на тую гару дзе, быць можа, на ім нас-жа раскрыжуюць, як раскрыжавалі памятаеш, браце, Яго...

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

ленкі захоплены штаб каральнага аддзелу і ўся мясцовая чэ-ка. Чэкісты і палітычныя кіраўнікі павешаны на тэлеграфных стаўпох за пыткі і зьверствы, дапушчаныя над прысуджанымі да расстрэлу паўстанцамі, трупы якіх былі знайдзены ў пакалечаным стане ў чугуначным сяльцы. У Трапэзундзе адтрымана радыяграма ад камітэту паўстанцаў у Поці аб збаўленьні арыштованых грамадзян Батуму, вывезеных на транспорце ў адкрытае мора. Сухумскі вокруг ізоляваны паўстанцамі, камуністы арыштованы. Недалёка ад гораду стаіць савецкі мінаносец, паведаміўшы радыятэлеграфам гарадзкую раду, што ён пачне страляць, калі будзе дапушчаны гвалт над савецкімі й партыйнымі працаўнікамі. Э Туапсэ і Сочы пасланы вайскавыя аддзелы на звальненьне Сухумскага вокругу. У Тыфлісе паранейшаму сытуацыя напружаная.

### У Азэйбэрджане.

У мястэчку Еўлах, недалёка ад станцыі Закаўкаскае чугункі, ў раёне Азэйбэрджану, чэ-ка арыштавала камітэт паўстанцаў, трымаўшы контакт з галоўным камітэтам паўстанцаў у Грузіі. Паўстанцкі каміт. складаўся з грузінаў, расейцаў і мясцовых татараў, у большасьці сваёй чугуначных служачых. У сувязі з арыштам камітэту чугуначная лінія Еўлах-Елісаветполь пераведзена на ваеннае палажэньне і чугуначныя станцыі перaданы пад нагляд ваенных камэндантаў.

### Масавыя вобыскі ў Баку.

Уночы з 1 на 2 верасьня ў Баку, ў часьцях Чорнага й Белага гораду, Сабунчы й Балаханы, ў рабочых кварталах і пасёлках ваеннымі камандамі былі зроблены масавыя вобыскі й арышты рабочых. У Браілаўскі вастрог пасаджаны 140 рабочых, а рэшта арыштованых памешчана ў парожніх ваенных казармах.

### Расстрэлы рабочых у Ленінградзе.

Ленінградскім губ. судом у прысьпешаным і упрошчаным парадку па прадстаўленьню ГПУ разгледжана справа 17 рабочых, абвінавачаных у падрыхтоўцы агульнае забастоўкі і збройным выступленьні проці радавае ўлады. Абвінавачаныя былі арыштованы 22 жніўня, а 29 жніўня іхняя справа была перадана ў суд, які пасьля паўтарыгадзіннага разгляду засудзіў абвінавачаных на кару сьмерці. Расстрэл зроблены на полігоне каля парахавых заводаў уночы 30 жніўня. Сваякі расстрэленых былі паведамлены аб выкананьні судовага прыгавару 2 верасьня і ў гэты дзень увечары рабочымі Выбарскае стараны і Охты былі зроблены цывільныя паніхіды па расстрэленых. Выступленьні аратараў былі папярэджаны раптоўна коннаю міліцыяй, разганяўшаю рабочых.

### Расстрэл.

„Правда“ піша, што ленінградзкі ваенны трыбунал засудзіў на расстрэл быўшага жандарскага афіцэра Ерамеева і селяніна Вайдомэна, абвінавачваных у службе ў польскай контрразьведцы ў 1919—1921 г. Суд пастанавіў не прытарноўваць амнэстыі да абодвух засуджаных.

## Жыцьцё провінцыі.

### На чыю гэта карысьць?

**Маладзечна**, *Вялейскага пав.*

Намі адтрымана з м. Маладзечна—пісьмо на польскай мове, ў якім пішацца:

„Гэтым маю гонар паведаміць, што 7. IX. 1924 г. а 13-ай гадз. дзень сьвяточны, жыхары м. Маладзечна, вул. Пілсудскай *Кісель* Аляксандар, *Сітко* Пётра, *Ганэцкі* Пётра і інш. сядзелі на лаўцы пры сваім доме, чытаючы газэту „Грамадзкі Голас“. У той момэнт праходзіў вуліцаю старшы паліцыянт з пастарунку Маладзечна Рагіна, забраў газэту і *Аляксандра Кісяля,* таму што ён чытаў і павёў яго на пастарунак, дзе мелі напісаць пратакол, але ня было Камэнданта пастарунку, дык А. Кісель быў звольнены і сказана было прыйсьці на 15-ю гадзіну і йзноў ня было зроблена (załatwiono), пасьля быў вызначаны тэрмін на 20 ую гадзіну, і, нарэшце, на другі дзень на 9-ю гадз. Аказалася, што за чытаньне беларускае газэты, чытаючы мусіць хадзіць па чатыры разы на пастарунак і невядома на чым будзе канец. Дзеля чаго просім зрабіць стараньні, каб свабодна маглі мы чытаць свае беларускія газэты, а таксама й выпісваць, а спомненага старшага паліцыянта Рагіня пацягненьня да адпавядальнасьці за стаўляньне нам перашкодаў, цягаючы спакойных людзей па пастарунку, гэтым самым даючы страх іншым чытачом беларускае часопісі. У Маладзечне тут дзьве расейскія копэратывы, з якіх адна выпісвае газэту „Грамадзкі Голас“ і то гэтак тайна трымае, каб не даведалася аб гэтым паліцыя, якая вельмі прасьледуе як беларускую газэту, так і беларусаў“.

Маладзечна 7. IX. 1924 г.

*А. В.*

**Вёска Зарудзічы**, *Ашмянскага павету.*

У нашай вёсцы налічваецца каля 100 дзяцей школьнага веку. У 1922 годзе была беларуская школка, але з нейкіх прычын у гэтым жа годзе была зачынена. Бацькі не адзін раз зьвярталіся да пана Школьнага Інспэктара у Ашмяне з просьбай, каб зноў пазволіў адчыніць беларускую школу, але згоды на гэта пан Інспэктар не даваў. А мы бачачы, што аб беларускай школе і ня можа быць ніякай мовы, прасілі зноў таго-ж пана Інспэктара аб польскай школе, але і гэта было безрэзультатна, а была адчынена польская школа ў вёсцы Міхневічы, адна вярста ад нашай вёскі. Так нашы дзеткі прахадзілі 1923 год у вёску Міхневічы. Вось цяпер мы пачулі што Польскім Соймам апрацованы есьць і мае ўвясьціся ў жыцьцё закон аб беларускай мове ў Заходняй Беларусі ўва ўсіх установах, таксама і ў школах. Зьвярнуліся мы тады ў Нацыянальны Беларускі Камітэт у Вільні, каб памог ён нам, расталкаваў цёмным людзям, да каго зьвярнуцца з просьбай аб пазваленьні, каб усё-ж такі ў сваёй вёсцы адчыніць школку, або каб у Міхневіцкай школе ўвялі беларускую мову. Як пачуў гэта Нацыянальны Камітэт, дык як накінецца на нас, гаворачы, што мы здраднікі і ворагі беларускай справы, калі будзем прасіць аб пазваленьні ўвясьці ў школу беларускую мову, што мы не павінны згаджацца з гэтым, бо і паслы беларускія не далі згоды ў Сойме на тое і т. д. думелі мы, чуючы гэткія рэчы Ва ўсіх у нас сялян сэрца застукацела радасьцю што Польскі Урад, зразумеў нас сялян-беларусаў, а тут-вось табе маеш, Нацыянальны Камітэт бэсьціць нас. Што-ж гэта? Каму верыць? Ці Польскаму Ураду, ці Віленскаму Беларускаму Камітэту? Вось так мы, значыцца, з нічым і прыехалі да хаты. У сучасны момэнт, знаходзячыся у такой нявыясьненай сытуацыі, зьвяртаемся да „Грамадзкага Голасу“ і просім пана рэдактара, каб у сваёй паважанай газэце даў пэўны адказ, да каго маем зьвярнуцца ў вышэйсказанай справе, і што рабіць, і разам просім надрукаваць у сваёй газэце нашае пісьмо, каб другія сяляне ў гэтай справе не зьвярталіся да Нацыянальнага Камітэту, бо толькі затрацяць час і грошы, якія вёска складае на такія дэпутацкія справы, а ўсё роўна ніякае добрае рады адтуль не адтрымаюць.

*К. Т.*

## Катастрофа на чугунцы.

З 8 на 9 верасьня ўночы а 1 гадз. 15 мін. з Вільні адыйшоў да Варшавы панцырны цягнік Danuta. А 4 гадз. 45 мін. раніцаю віленская дырэкцыя чугунак адтрымала кароткае паведамленьне аб страшнай катастрофе, якая адбылася з гэтым цягнікам каля ст. Алькенікі ў 300 мэтрах ад чугуначнага мосту праз р. Мэрачанку. А 6 гадз. раніцы з Вільні вышаў на месца катастрофы санітарны цягнік, а а 10 гадз. раніцы—службовы цягнік, у якім былі: Дэлегат Ураду п. Роман, гэнэрал Рыдз-Сьміглы, Дырэктар Віленскай Чугуначнай Дырэкцыі, акружны камэндант паліцыі п. Прашаловіч, інспэктар сьледчае паліцыі п. Янчэўскі, начальнік сьледчае паліцыі Віленска-Троцкага павету п. Губінскі і сьледчы судзьдзя. Да першай з паловаю гадзіны ніхто акуратна ня ведаў ліку ахвяраў і акалічнасьцяў катастрофы. А $1\frac{1}{2}$ гадз. ў Вільню прыбыў санітарны цягнік прывёзшы раненых. У час прыходу цягніка на пэроне былі—Камісар Ураду п. Вімбор, сэкрэтар дэлегата п. Пятровіч і камэндант паліцыі п. Талпыга. Першым з санітарнага цягніка выйшаў лёгка ранены ў галаву паручнік Данілеўскі. Яго акружыла грамада ваенных і чугуншчыкаў, хацеўшых даведацца аб лёсе сваякоў і знаёмых. Паручнік, будучы раненым у галаву і забінтованым, з трудом мог гаварыць. Пасьля вынясьлі з вагона дзесяць раненых жаўнераў. Забіта пры катастрофе двох: паручнік Мешчалкоўскі і плютановы Морайда.

Выясьнены гэткія падробнасьці катастрофы: панцырны цягнік Danuta, з прычыны няправільна перавдзенае стрэлкі зыйшоў на запасную лінію і на поўным бегу ўрэзаўся ў тупік. Ад моцнага ўдару цягнік зваліўся з насыпу. У поўнай цемры лёгка раненыя жаўнеры й афіцэры пачалі выцягваць з-пад разьбітага цягніка забітых і раненых. Увечары вярнуўся ў Вільню службовы цягнік, прывёзшы назад Делегата Ураду і іншых высокіх вураднікаў. Сьледчы судзьдзя заразжа пачаў справу рассьледаваньня прычынаў катастрофы.

## Тутэйшая хроніка.

**— Новая Беларуская Партыя.** Сярод беларускае інтэлігэнцыі стварылася група, якая зьяўляецца ядром новае „Беларускае Дэмакратычнае Партыі“. Апрацоўваецца самая шырокая дэмакратычная праграма.

**— Пазычыў на пару мінют і... прасрочыў.** Сымон Глет пазычыў у свайго знаёмага М. Сыркіна - Шклоўскага (Завальная 28) на колькі *мінют* (!) чатыры брылянты вялікай цаны. С.-Шклоўскі ацаніў іх на 1½ тыс. даляраў. Але прайшло ўжо колькі *месяцаў,* а Глет пазычаных цэннасьцяў не аддаў.

Прайшло шмат часу, пакуль пакрыўджаны Шклоўскі ад сваіх знаёмых, якія жывуць у Коўні, даведаўся, што ў сталіцы Літвы паявіўся ўкраўшы ў яго брылянты Глет і там шырока жыве, прапіваючы ў начных кафэ вялізныя грошы.

Пасьля доўгіх клопатаў Шклоўскаму ўдалося дабіцца таго, што літоўская дзяржава выдала злодзея ў рукі польскае ўлады. У мінулым тыдні літоўская паліцыя перадала Глета польскай пагранічнай варце.

Цяпер аматар дарагіх брылянтаў сядзіць ужо на Лукішках. З пазычаных на пару мінют брылянтаў, у яго знайшлі ўжо толькі два.

**— Трамвай.** Ад мінуўшай нядзелі пачаў ужо акуратна хадзіць гарадзкі трамвай на Антокаль. Віленская публіка гэтак поўна недаверыя да свайго магістрату, а жыхары Антокалю гэтак ужо навучаны горкім дасьведчаньнем, што праходжыя, пабачыўшыя на вуліцы трамвай, затрымліваюцца з дзівам і глядзяць, калі мотор перастане працаваць, а ім прыдзецца памагаць скрануць воз з месца.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

Паважаны Паве Рэдактар, прашу зьмясьціць у Вашай газэце маё пісьмо.

Ад нейкага часу прысылаюць мне газэту „Сын Беларуса“ (хоць я ніколі яе не выпісываў), на шпальтах каторай я толькі й бачу напады на ўрад, адміністрацыю, паліцыю, што мяне вельмі зьдзівіла. А яшчэ больш зьдзівіла, калі я ўбачыў новы закон аб мовах для меншасьцяў у Польшчы. Дзівіла мяне тое, чаму нашы паслы ў Сойме адмовіліся галасаваць за прыняцьце гэных законаў. Наш просты розум хлебаробаў лічыць гэныя законы карыснымі для нашага беларускага сялянства, бо мы ў іх бачым першы крок для цясьнейшага сужыцьця народаў Польскае Рэспублікі. А што датычыцца гвалтаў паліцыі і адміністрацыі, то ізноў зьдзіўленьне; праз двух-трох нягодных паліцыянтаў ці адміністратараў нельга ганіць усю паліцыю і адміністрацыю; маю на мэце наш Браслаўскі павет, дзе я жыву ад часоў прыходу сюда польскай улады, каторай наша Беларуская люднасьць чакала як збаўцы ад бальшавіцкага раю (які так выхваляе „Сын Беларуса), расстрэлаў і рэквізіцый, каторыя рабілі ў нас бальшавікі. Цяпер пад Польшчай мы гэтага нічога ня бачым, жывём сабе, сьмела працуючы на сваіх загонах, здабываючы сабе кусок хлеба; ніякага гвалту ні зьдзеку ні ад каго ня маючы, бо наш Стараста Браслаўскі п. Янушкевіч лічыць кожнага грамадзяніна роўным перад законамі Рэчыпаспалітай і стараецца аб падняцьці культуры сельскае гаспадаркі ў павеце.

На падставе вышэйсказанага мы, спакойныя хлебаробы, лічым газэту „Сын Беларуса“ нягоднай для нас, сялян, а годнай пашаны ў нас ёсьць газэта „Грамадзкі Голас“. Дзеля чаго даводжу да ведама рэдакцыі „Сына Беларуса“ — на імя ніжэй падпісанага памянёнай газэты не высылаць.

*П. Гірдзюк.*

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей.

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.